На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...

Якуб Колас

**№ 148 (1212)**
Аўторак, 14 жніўня 2001 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Кошт: у кіёсках і крамах — 100 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля


**Надвор'е**

Сёння ўдзень па краіне чакаецца пераменная воблачнасць, месцамі кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Вецер паўднёва-заходні, 4—9 м/с. Тэмпература паветра ўначы — +10...+12, удзень — +20...+23.



ПУЛЬС

## У Гомельскага аб'яднання "Гарт" канфіскавалі аргтэхніку

**Упраўленнем КДБ па Гомельскай вобласці ўзбуджана крымінальная справа па фактах роспісу ў Гомелі сцен будынкаў антыўрадавымі лозунгамі.**

У КДБ палічылі, што роспісам сцен маглі займацца члены гомельскага маладзёжнага аб'яднання "Гарт", у сувязі з чым 10 жніўня ў кватэры, якую займае гэтая незарэгістраваная арганізацыя, быў праведзены вобыск. Санкцыю на яго выдаў пракурор Гомельскай вобласці Алег Палавінка.

Шматгадзінны вобыск у офісе "Гарту" закончыўся канфіскацыяй дакументацыі арганізацыі, аргтэхнікі — трох камп'ютэраў, прынтэра і сканера, а таксама рознай друкаванай прадукцыі, аўдыя- і відэакасет з запісамі выступленняў папулярных беларускіх рок-груп.

**Ірына ШАНЦАВА.**

## Васіль Лявонаў упэўнены ў перамозе

**У Гродне кіраўнік выбарчай кампаніі адзінага кандыдата і старшыня аргкамітэта па стварэнні грамадскага руху "За новую Беларусь" Васіль Лявонаў правёў у рэдакцыі газеты "Пагоня" дзвюхгадзінную гарачую тэлефонную лінію.**

Адказваючы на пытанні, Васіль Лявонаў заявіў: "Я ўпэўнены, што ў верасні Аляксандр Лукашэнка будзе адхілены ад улады без вайны і крыві, мірным шляхам". Васіль Лявонаў перакананы, што ўлада не здолее сфальсіфікаваць вынікі выбараў. Ён падкрэсліў асабістую адказнасць членаў выбарчых камісій за магчымыя фальсіфікацыі: "Кожны, хто дапусціць парушэнні падчас падліку галасоў, будзе сядзець у турме, і гэта будзе злачынства без тэрміна даўніны".

Адзначыў Васіль Лявонаў і вялікую падтрымку на Гродзеншчыне Сямёна Домаша, аднак заклікаў галасаваць за адзінага кандыдата Уладзіміра Ганчарыка: "Калі пачнем біцца кожны за свайго кандыдата, зноў прайграем, як у 1994 годзе".

**Павел МАЖЭЙКА.**

## Канал ад Дняпра да Дзвіны

**Праект пракладкі рачнога транзітнага маршруту ад Балтыйскага да Чорнага мора, вядомага ў гісторыі як шлях "з варагаў у грэкі", распрацоўваюць спецыялісты Беларусі, Літвы і Украіны.**

Канал, які злучыць Дзвіну і Днепр, дазволіць удвая скараціць шлях з раёнаў Блізкага Усходу ў Паўночную Еўропу. Адмыслоўцы сцвярджаюць, што гэта дарагі праект, але ён можа акупіцца цягам 5—6 гадоў. Мяркуецца, што ў кастрычніку ў Рызе пройдзе сустрэча прадстаўнікоў трох краін-удзельніц для больш дэталёвага абмеркавання праекту.

## Прабег у падтрымку Валерыя Шчукіна забаронены

**Мінскі гарвыканкам не дазволіў правядзенне 13 жніўня прабегу па маршруце "Мінск—Жодзіна" ў падтрымку праваабаронцы Валерыя Шчукіна, які адбывае пакаранне ў жодзінскім следчым ізалятары.**

Па словах лідэра "Маладога фронту" Паўла Севярынца, які падаваў заяўку на правядзенне акцыі, 9 жніўня ў тэлефоннай гутарцы з прадстаўнікамі юрыдычнага аддзела Мінгарвыканкама яго запэўнілі, што прабег дазволены, 10 ж жніўня яму было паведамлена аб іншым рашэнні.

У гутарцы з арганізатарамі прабегу — Паўлам Севярынцам і Андрэем Саротнікам — намеснік старшыні Мінгарвыканкама Міхаіл Пятрушын зазначыў, што гэтае мерапрыемства не дазволена ў сувязі з тым, што арганізатары не прадставілі дазвол ад Мінскага аблвыканкама на яго правядзенне па тэрыторыі Мінскай вобласці. Аблвыканкам ў сваю чаргу адхіліў заяўку з прычыны адсутнасці дазволу Мінгарвыканкама.

Тым не меней "Малады фронт" заяўляе, што акцыя ў падтрымку палітычнага зняволенага Валерыя Шчукіна абавязкова будзе праведзена. Маладафронтаўцы маюць намер перадаць у жодзінскі следчы ізалятар перадачу для Шчукіна.

**Генадзь БАРБАРЫЧ.**

## Першыя баявыя пускі ЗРК "ПЯЧОРА-2"

**Першыя выпрабаванні ўзору мадэрнізаванай пускавой устаноўкі былі праведзены пад Санкт-Пецярбургам у канцы снежня 2000 года. Тады вызначалася стойкасць элементаў устаноўкі і шасі да ўздзеяння газадынамічнага струменю ракеты. Пускавая ўстаноўка для мадэрнізаванага ЗРК была сабрана на унітарным прадпрыемстве "Канструктарскае бюро спецыяльнага машынабудавання" у Санкт-Пецярбургу, а шасі павышанай праходнасці для яе створана на Мінскім заводзе колавых цягачоў.**

Выпрабаванні праводзіліся ў рамках кантракта на мадэрнізацыю зенітна-ракетных комплексаў гэтага класа, падпісанага МФПГ "Абарончыя сістэмы" з адной з замежных дзяржаў. Паводле некаторых звестак, гэтай дзяржавай можа быць або Егіпет, або Індыя. Паводле звестак расійскіх СМІ, ЗРК другога пакалення "Пячора" быў экспартаваны ў 35 краін свету, усяго з 1972-га па 1986 год за мяжу было пастаўлена каля 400 (па іншых звестках — каля 600) комплексаў "Пячора". Яны эфектыўна "працавалі" падчас вайны ў В'етнаме і ў часе канфліктаў на Блізкім Усходзе. Пасля 30 гадоў эксплуатацыі гэтыя самы масавы ў свеце комплекс СПА ўсё яшчэ мае значны рэсурс для мадэрнізацыі.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

ГРОМКАЯ ТЕМА

## Зинаида Гончар: "Я требую ответа на вопрос, что случилось с моим мужем..."

***На днях супруга похищенного исполняющего обязанности председателя Верховного Совета Беларуси 13-го созыва Виктора Гончара встретилась с экс-председателем КГБ Владимиром Мацкевичем.***

— Встреча произошла по моей инициативе. Разговаривали мы с Владимиром Александровичем почти три часа, — говорит Зинаида. — О подробностях встречи рассказывать пока не могу, выводы делать тоже пока рано. Фактически ничего нового генерал не сказал. Хотя этот человек действительно владеет *всей* информацией, касающейся похищений известных людей.

Я все же надеюсь на благоразумие сотрудников прокуратуры и думаю, что недавно опубликованные материалы, переданные журналистам Владимиром Гончариком, несмотря ни на что должны быть тщательно рассмотрены. А от высших должностных лиц государства я попрежнему требую ответа на вопрос, кто виновен и что случилось с Гончаром, Захаренко, Завадским и Красовским.

И еще. В одной из последних передач "Права человека: взгляд в мир" Евгений Новиков в очередной раз облил грязью моего мужа и других пропавших. На мой взгляд, на это обязательно должны обратить внимание следователи, занимающиеся делами о похищении известных людей. Могу предположить, что этот человек явно находился в состоянии аффекта. Какие студийные декорации приводят его в столь неконтролируемое возбужденное состояние, могу только догадываться... Думаю, в ближайшее время руководство Белтелерадиокомпании должно принять соответствующие меры для того, чтобы оградить страну от таких социально опасных элементов, как Евгений Новиков.

**Марина КОКТЫШ.**



### Открытое обращение

В последнее время достоянием общественности стали документы, авторство которых приписывается генералу МВД Лопатику. В случае их подлинности эти документы могут пролить свет в деле о похищении моего мужа Виктора Гончара, а также других похищенных. Но правоохранительные органы молчат. Молчит Лукашенко. Не делает официальных заявлений и сам Лопатик.

В этой связи я обратилась к руководству КГБ, МВД, прокуратуры г.Минска и следователю, ведущему данное дело. Я требую от правоохранительных органов немедленно проверить подлинность данных документов и изложенных в них фактов.

Я также обращаюсь к г-ну Лопатику как к офицеру и гражданину с требованием публично подтвердить или опровергнуть свое авторство. Проверка подлинности документов и изложенных в них фактов должна быть осуществлена прокуратурой г.Минска, ведущей дело о похищении моего мужа, в максимально короткие сроки, так как в случае их подтверждения гражданин Лукашенко не имеет ни морального, ни юридического права участвовать в президентских выборах.

**Зинаида ГОНЧАР,**
**11 августа 2001 г.**

## Минск выбрал Маринича

**Даже по официальным данным наибольшее количество подписей в Минске собрал Михаил Маринич (69.736). У действующего президента Лукашенко только 63.553 подписи. Реально Михаил Маринич собрал в столице около 80 тысяч подписей.**

## Я буду защищать не только свои права, но и то доверие, которое оказали мне вы, жители Минска

### Обращение МИХАИЛА МАРИНИЧА к жителям Минска



Дорогие минчане!

Я благодарен вам за поддержку в ходе сбора подписей, позволившую мне опередить в Минске всех других претендентов, в том числе действующего президента Лукашенко.

Минск всегда шел впереди всех преобразований, проходящих в республике. Кому как не жителям столицы очевидно, что страна находится на грани экономического развала, в изоляции, живет в условиях страха. Именно из центра, из Минска, расходятся лучи надежды на преобразования во все регионы Беларуси. На вас, жителей столицы, ориентируется вся страна. В Минске наиболее остро ощущается накал политической борьбы и четко видны перспективы, которые откроются с приходом политических и экономических свобод, демократии, нормализации отношений с мировым сообществом.

Позиция минчан уже на этапе сбора подписей — сигнал к демократическим переменам для всей республики. Спасибо вам за то, что вас не смогли заставить изменить свое мнение, несмотря на огромное давление властей, устрашение, которое каждый из вас ощущает на рабочем месте и в повседневной жизни.

К сожалению, ЦИК не засчитала более 100 тысяч подписей, собранных в мою поддержку. Как только стало ясно, что нашлись дополнительно 4,5 тысячи подписей, последовала немедленная установка по формальному снятию любого количества подписей, чтобы не допустить преодоления мною стотысячного барьера. Попытки юридическими средствами отстоять свою правоту и интересы моих избирателей натолкнулись на глухое и сплоченное сопротивление надлежащим образом проинструктированных работников районных администраций и избирательных комиссий. Отказ ЦИК в регистрации подписей, подтвержденных реальными документами, свидетельствует о жестком политическом заказе — убрать меня из предвыборной гонки.

Несмотря на это, я намерен продолжать борьбу. Я буду защищать не только свои права, но и то доверие, которое оказали мне вы, жители Минска. Спасибо всем, кто поставил подписи в мою поддержку, всем, кто верит в перемены и ждет их.

Сегодня мы не должны потерять веру в демократические преобразования, а объединиться вокруг единого кандидата от демократических сил. Мы вместе избавимся от страха и обязательно победим. Будьте сильными и пусть за Вами, жителями столицы, идет вся Беларусь. Мы вместе выведем нашу Родину из краха и придем к достойной жизни.

ЛИЧНОЕ МНЕНИЕ

## Завтра будет Победа!

**Александр СИЛИЧ**

*До первого тура президентских выборов осталось 26 дней. Главным итогом минувшего месяца, безусловно, является выдвижение единого кандидата от широкой гражданской коалиции и формирование единого штаба. Главным итогом месяца нынешнего должно стать реальное объединение всех политических и общественных сил вокруг единого кандидата. Кроме того, в конце августа мы узнаем, какие фамилии будут значиться в избирательном бюллетене президентских выборов.*



### Реальный рейтинг Лукашенко — 20%

Очень часто штатные фантазеры, обслуживающие власть, любят рассказать народу сказку о том, что Александра Григорьевича на грядущих выборах готовы поддержать 80—90% населения. Да и сам А.Г. на каждом углу ненавязчиво намекает о своей непобедимости. Так ли это? Зачем взрослым нужны сказки? Попробуем вместе найти истину.

В прессе гуляет множество результатов социологических исследований, в том числе ангажированных властью институтов. Цифра положительного рейтинга Лукашенко во всех соцопросах колеблется в районе цифры 40%. Напомним, что в прежние годы она была 50—55, а сразу после избрания в 1994 году — даже более семидесяти.

Однако, как поясняет опытный белорусский социолог Андрей Вардомацкий, "нынешняя цифра в 40% — это заявленный электоральный рейтинг или так называемый некристализованный рейтинг". По исследованиям Андрея Вардомацкого, десять из этих сорока процентов называют фамилию Лукашенко только по причине того, что они просто НЕ ЗНАЮТ альтернативного кандидата. Еще 8—10% из вышеназванных сорока лукавят при ответе на вопрос о своих политических предпочтениях, поскольку испытывают на себе "эффект страха" — им кажется, что "люди, производящие социологический опрос, представляют государственные органы контроля".

Таким образом, по Вардомацкому, кристализованный (т.е. реальный) рейтинг Лукашенко — 20—22%. В случае активной информационной раскрутки единого кандидата от демкоалиции, в том числе по российским СМИ, а также предполагая, что многие из жертв "эффекта страха" в кабинке для голосования продемонстрируют свое истинное отношение к существующей власти, реальные батькины цифры в итоговой ведомости Центризбиркома — не более 25%.

Поэтому ни о какой разгромной победе Александра Лукашенко на выборах и речи быть не может. Тем более в первом туре, когда сам факт участия в нем нескольких альтернативных кандидатов (а не одного) обеспечивает максимальный отток голосов от действующего правителя.

Кроме того, не следует забывать и тот факт, что по величине отрицательного рейтинга Лукашенко сегодня уступает только Зенону Позняку. Но Позняк, как известно, в выборах не участвует.

### Победа в первом туре единого кандидата. Возможно ли это?

Попробуем обратиться к цифрам исследований, произведенных зарубежными институтами. Согласно данным Международного Республиканского института (США), на сегодняшний день за Лукашенко готовы проголосовать в Беларуси, в лучшем случае, 31% избирателей. 45% же твердо хотят видеть за рулем государства нового президента. Остальные 24% составляет так называемое "болото" — избиратели, которые определятся только в день выборов.

Принимая за должное тот факт, что члены "пятерки" выполнят взятые на себя обязательства и высказав предположение, что Сергей Гайдукевич свою кандидатуру снимать не будет ни в коем случае, рассмотрим варианты. Наиболее вероятен такой вариант состава участников первого тура: Гончарик—Гайдукевич—Лукашенко. При таком раскладе Лукашенко берет, скорее всего, свои 31% + часть "болота". А как делят свой стабильный "пирог" в 45% Гончарик и Гайдукевич?

Взвесив множество оценок, думаю, что Гайдукевич наберет процентов 6—7. Во всяком случае, 10% — это его потолок. Здесь влияние оказывают многие факторы: и то, что Сергей Гайдукевич является лидером политической партии (что, как известно, в наших условиях очень сильно мешает политику, а не помогает), и малоизвестность в широких кругах, и невнятные отношения с культурной и политической элитой, и ассоциации, неизбежно возникаемые с российской структурой политика-шута Владимира Жириновского, и т.д.

Гончарику, при условии поддержки единого кандидата всеми общественно-политическими силами и профсоюзами, может достаться твердых 35% голосов электората плюс, опять же, часть "болота".

Если команде единого кандидата в оставшееся до выборов время удастся провести одну-две яркие пиаровские акции, направленные на популяризацию кандидата, а также заинтересовать избирателей прийти на выборы, цифра в 51% и победа в первом туре становятся вполне реальными.

### Дело за малым

Чтобы все приведенные выше аргументы не стали в конце концов обычным сырьем для мусорного ведра, дело за малым — необходимо обеспечить в Беларуси честные, свободные и открытые выборы.

Если Центральная избирательная комиссия во главе с Лидией Ермошиной и Николаем Лозовиком на время забудет указания и пожелания, исходящие из одного очень высокого органа власти, не будет снимать с президентской гонки кандидата только потому, что у него на острове Гаити проживает троюродная внучка двоюродной племянницы, у которой в местном ГАИ не зарегистрирован трехколесный велосипед, а будет руководствоваться исключительно здравым смыслом и избирательным кодексом, в сентябре нас ждет увлекательнейшая политическая борьба.

Будем надеяться, что институт независимого наблюдения, созданный Мечеславом Грибом, не допустит безнаказанных подтасовок и фальсификаций в итоговых документах выборов. Будем надеяться, что представителям облисполкомов, горисполкомов и прочих комов хватит ума не провоцировать и не допускать давления с угрозами. Будем надеяться, что будет просто борьба. Борьба между обычными соперниками.

Будем также надеяться на то, что завтра нашими общими усилиями произойдет событие, которое будет радостным для всех нас.

Завтра будет Победа!

КЛІНІКА

## Вайнушка-2001

### Генерал Казлоўскі лічыць вайсковыя вучэнні "Нёман-2001" палітычнай акцыяй



У каго цэлім, хлопцы?

Фота IREX/ProMedia.

**Напярэдадні выбараў "бацька" беларускі вырашыў пагуляць мускуламі: паблізу заходняй граніцы Беларусі пройдуць "комплексныя аператыўна-тактычныя вайсковыя вучэнні". На час вучэнняў будзе створаны "адзіны орган кіравання Галоўнакамандуючага Узброенымі Сіламі Рэспублікі Беларусь". Гуляць у вайнушку дык гуляць!**

За каментарыем я звярнуўся да першага міністра абароны незалежнай Беларусі Паўла Казлоўскага. Вось яго думка:

— Вайсковыя вучэнні, безумоўна, арміі патрэбны — з гэтым я не спрачаюся. Армія павінна рэгулярна ўдасканальваць сваё баявое майстэрства. Праблема ў іншым: ці ёсць на сённяшні момант для гэтага рэсурсы? Наша армія, на жаль, разутая і распранутая. Вучэнні "Нёман-2001", на мой погляд, спланаваны выключна як палітычная акцыя існуючага рэжыму, а не як спроба праверыць баяздольнасць войскаў. У арміі праблемы зараз катастрафічныя — няма саляркі для танкаў, для БМП, запасных частак...

**— Адкуль знайшліся раптам грошы на гэты "Нёман-2001", як Вы лічыце?**

— Мусіць, Рыгоравіч вырашыў выдзеліць грошы на вучэнні з аднаго са сваіх падпольных рахункаў.

**— Мабыць, правіцель вырашыў напужаць НАТО?**

— Не ведаю, каго ён збіраецца пужаць. Але, пэўна, хоча паказаць, што, маўляў, паглядзіце, які я "круты" і моцны. Але ж я ўпэўнены, ніякай рэакцыі з боку НАТО не будзе. Дзіцячыя гульні Лукашэнкі — гэта проста смешна... Вучэнні ў Беларусі, краіне, якая заявіла аб сваім намеры быць нейтральнай дзяржавай, будуць разгледжаны ў сусветным грамадстве як нонсенс, як спроба дзеячаў ад палітыкі задаволіць свае ўласныя амбіцыі, прадэманстраваць усяму свету свае дрyзлыя мышцы... І наогул, калі б кіраўніцтва нашай краіны было разумным, яно калі б і праводзіла вучэнні, то не перад выбарамі. Падкрэсліваю, калі б яно было разумным...

**— А які вопыт вайсковых вучэнняў склаўся з савецкіх часоў?**

— У савецкія часы буйныя вайсковыя вучэнні праводзіліся звычайна зімой. Чаму? Зімой палі ўбраныя, немагчыма вайсковай тэхнікай пашкодзіць іх. У гэты час працей было прызваць людзей з запасу. І вучэнні, што немалаважна, былі больш таннымі менавіта зімой. Іншымі словамі, лукашэнкаўскія вучэнні "Нёман", яшчэ раз падкрэслю, — палітычны спектакль.

**— Паведамляюць, што "на час вучэнняў будуць створаны новыя органы ваеннага кіравання галоўнакамандуючага Рэспублікі Беларусь". Ці быў у вашай кар'еры падобны вопыт?**

— Нават у часы "развітога сацыялізму" палітыкі стараліся напрамую не кіраваць войскамі. І ўсе вайсковыя вучэнні праводзіліся па-за ўсякай палітыкай. Напярэдадні нейкіх сур'ёзных палітычных мерапрыемстваў, напрыклад, з'езда КПСС, вучэнні не маглі быць праведзены ў прынцыпе.

**— Дык навошта Лукашэнку ладзіць гэтыя гульні ў вайнушку?**

— Гэта ж відавочна! Лукашэнка проста спужаўся. Ён баіцца нявыгадных для сабе вынікаў прэзідэнцкіх выбараў.

**Гутарыў Алесь СІЛІЧ.**

ПЕРСОНА

# Александр Лукашенко уедет в Израиль?

*В субботу "Народная воля" вышла без продолжения рассказа о недавней пресс-конференции Александра Лукашенко. И редакционные кабинеты взорвались от звонков: почему дали беседу с А.Г. лишь своего журналиста, М.Коктыш, и ни слова о том, какие вопросы задавали представители других изданий. Белорусское телевидение, Козиятко, Зимовский и прочие певчие режима показали пресс-конференцию в урезанном виде и, конечно же, с заангажированными комментариями. Один из наших читателей прямо сказал: "Отмазывают...".*

*"Народная воля" не собирается перенимать опыт БТ. В ответ на многочисленные просьбы читателей мы постараемся расширить рамки отражения диалога, который имел место во время нашумевшей пресс-конференции. Более того, наша редакция вернется к истории с Логвинцом и покажет, что же это за спрут был создан в государстве и на кого он работал. По этому поводу было немало написано, но, судя по всему, есть еще о чем рассказывать. Сегодня скажем только одно: не Божелко вырывал из тюрьмы Логвинца, а освободили его в строгом соответствии с законом — вначале было постановление коллегии Прокуратуры Республики Беларусь, а не личное указание Божелко, а потом — решение суда.*

*Впрочем, это уже другая тема, к ней мы вернемся. А сегодня знакомьтесь с ответами А.Лукашенко на вопросы журналиста "БДГ" Ирины Халип. Материал публикуется в варианте вышеназванного издания. Поскольку господину-товарищу Козиятко не понравился снимок, мы заменили его другим.*

**8 августа Александр Лукашенко решил пообщаться с журналистами. Особенно с независимыми, что было смелым поступком с его стороны, хотя во всем мире является нормой. Но черт с ним, с миром. У нас все по-своему, чем и привыкли гордиться, поскольку больше нечем.**

Встреча прошла почти "без галстуков" — ни один российский телеканал не был аккредитован, и потому президент чувствовал себя совершенно свободно. Раздухарившись, Александр Григорьевич даже пообещал, что это лишь начало и теперь такие встречи станут регулярными. Долгую жизнь на президентском посту видит он, однако...

Говорил Александр Лукашенко, как всегда, цветисто. Рассказал, что все претенденты на пост президента — достойные люди. Потом, правда, отметил: если к власти придет кто-нибудь другой — непременно разворует то, что еще не разворовано. На вопросы о пропавших без вести сконструировал дивную фразу: "Я ничего не буду говорить, потому что вы меня вовлекаете в конкретику. Не в проблематику даже, а в конкретику". Активно строил планы на следующую пятилетку, обещал зарплату в 250 долларов, пугал Шейманом. В общем, было интересно.

Во время этой неожиданной встречи Александр Лукашенко поставил перед журналистами одно условие: все сказанное им должно быть напечатано без всяких искажений. А уж какими комментариями журналисты дополнят сказанное президентом — это их личное дело.

Мы решили ничего не комментировать. Прекрасно понимая, что кандидат в президенты Александр Лукашенко нипочем не даст интервью нашей газете, просим считать нижеприведенные ответы на вопросы корреспондента "БДГ" тем самым предвыборным интервью.

**— Александр Григорьевич, в последнее время по стране, да и за ее пределами, упорно ходят слухи о вашем психическом нездоровье. И многое в вашем поведении их подтверждает — например, лыжные гонки на асфальте посреди лета.**

— А надо зимой было на асфальте на роликовых лыжах?..

**— Я вообще не знаю, зачем существуют роликовые лыжи. Но вопрос не об этом. Почему, Александр Григорьевич, вы не хотите пройти независимое психиатрическое обследование? Ведь это было бы в любом случае выгодно для вас: либо вы всем сплетникам утираете нос своим отменным психическим здоровьем, либо вы дальше живете спокойно, зная, что не несете ответственности ни за какие свои деяния, в том числе и преступные, поскольку на момент их совершения вы были невменяемы.**

— Ну спасибо за весьма откровенный вопрос. В одном заявлении из нескольких предложений меня еще никто так не обзывал — ни преступником, ни вменяемым, ни невменяемым. Тем не менее спасибо за искренность. Вы сказали о некой независимой комиссии. Вы будете ее возглавлять? Или мне в США поехать пройти эту комиссию?

**— Борис Ельцин в свое время для того, чтобы его признали здоровым, обратился к помощи известного западного хирурга Дебейки. И все поверили.**

— Ельцин обратился к Дебейки по такому случаю, что не дай бог мне обратиться по тому случаю. Это, во-первых. Во-вторых, я же понимаю, что вы меня просто шантажируете. Даже я не могу поверить, что вы меня считаете невменяемым человеком. За семь лет меня и раздевали, и одевали, и вертели, и крутили. Я не хочу сказать, что не делал каких-то ошибок и мое поведение было таким, что всем нравилось. Я по своей природе человек эмоциональный, и это дает повод вам в том числе спекулировать на этой теме. Ну не вам, Ирина, а вашим хозяевам. Поэтому вот эта постановка вопроса — независимая комиссия, зависимая комиссия — не для того, чтобы я прошел какие-то обследования. Меня просто шантажируют. Вот я пройду медицинскую комиссию — а президент ежегодно проходит комиссию по всем направлениям. Пройду я нашу комиссию, ну обвинят меня: скажут, это ж все врачи. Ну поеду я на Запад проходить комиссию, на ваш Запад. И что? Ельцин был другом Запада, Лукашенко — никакой не друг Запада. Извините, что использую эту терминологию. Вы понимаете, что я имею в виду. И вы меня толкаете на Запад пройти некую комиссию? Если вас интересует мое здоровье в Беларуси — я могу представить вам возможность убедиться в нормальном состоянии здоровья президента. А что касается асфальта, гонок и всего прочего — ну если говорят о здоровье президента, — давайте, выходите публично перед народом. Народ — самая независимая комиссия. Никто за семь лет, кроме лживой части оппозиции, я даже всю оппозицию туда не могу записать, не упрекнул меня в том, что я нездоров. Наоборот, отмечали другое. Потому это — надуманная проблема. Я, наверное, не так подробно должен был как политик на этот вопрос отвечать, но я отвечаю как человек, затрагивая эту тему. Потому что знаю: потом будут инсинуации и спекуляции со ссылками даже на некие слова, сказанные мной. И потом, ежегодно президент обследуется, история болезни ведется подробнейшим образом. И еще одну вещь скажу, в которую вы можете не поверить: президент тем и отличается от обычного человека, как еще Ленин когда-то говорил, что его здоровье — как шкаф, как стол. Его надо беречь, пыль с него вытирать. Это — казенное имущество. Поэтому те, кто сегодня отвечает за здоровье президента, никогда себе не позволят фальсифицировать данные о его состоянии здоровья. А вдруг что случится? К прокурору поведут тех, кто отвечает за состояние здоровья президента, поэтому фальсификации в истории болезни недопустимы. И потом, это коллегиальное обследование. Кстати, последнее обследование сердечно-сосудистой системы я прошел две недели назад. Это обычная процедура. Неужели вы думаете, я на каждый визг оппозиции должен реагировать? Вот вы сказали, что я невменяемый, а я должен перед вами оправдываться, что я вменяемый? Не будет этого. Вы меня вытаскиваете "на ковер" с целью, по-мужски говоря, мне морду набить. Ну и ради бога! Я могу. Я же ответил вам на асфальт и на лыжи, могу ответить и по другим направлениям. Но зачем мне это? Народу это не надо. Мне это не надо. Если вам и вашим хозяевам это надо — шантаж здесь не пройдет. Нормальный президент, Ирина, в Беларуси, не расстраивайтесь.



**— Вот только не легитимный.**

— Для вас он не легитимный, а впрочем, и для вас легитимный. Вы ж ко мне пришли на встречу как к президенту, а не как к Лукашенко. Как с Лукашенко вы со мной могли встретиться и не в резиденции. А пришли в резиденцию. Значит, что бы вы ни говорили, но вы меня считаете за президента. Спасибо за это. Может, и нелегитимный, но президент для вас. А для народа я абсолютно легитимный.

**— К вопросу о вашей эмоциональности, о которой вы говорите. Может, Гончар и Захаренко пали жертвой вашей эмоциональности? Возможно, вы сгоряча отдали приказ их убить, а потом просто забыли об этом? А Шейман помнил...**

— Если бы все было так, как вы сказали, я врагов бы убивал. А они все живут. Так чего ж отдавать дурные команды всех своих людей мочить не то в сортире, не то еще где-нибудь?

**— Отвечая на вопрос Интерфакса о покинувших вашу команду Титенкове и Божелко, вы кратко сказали: "Воровать меньше надо было". Но ведь еще два года назад наша газета писала и о Божелко, и о Титенкове, и о Логвинце, и о коррупции в руководстве прокуратуры. Почему же вы тогда не прореагировали на наши статьи, а сделали вид, будто это оппозиционная пресса клевещет на честных людей?**

— То, что вы сказали, правда. Только тогда ваша газета писала одно, что они коррупционеры, а сегодня ваша газета в нынешней ситуации стала другом для этих людей. Это правда. И тогда вы писали, пользуясь вбросом компромата, который нужен был отдельным должностным лицам. Это были вбросы из тех уголовных дел, которые тогда были возбуждены. Если вы хотите правды, то сегодня Шеймана "мочат" прежде всего за это: он отвечал, он контролировал — и я могу это доказать элементарно — от имени президента те уголовные дела. Логвинец был арестован и находился под следствием. И Божелко его выпустил. Вы были правы, когда об этом писали: то, что он создал, — это был целый спрут в нашей стране. И Логвинца нельзя было выпускать. А Божелко его выпустил. И где сейчас Божелко? У Логвинца в Москве работает подсобным рабочим.

**— А почему в таком случае сообщники Божелко — Николай Куприянов, Петр Иваненко и некоторые другие руководители прокуратуры — до сих пор на свободе и при должностях? Они ведь тоже части этого "спрута".**

— Как только это будет обнаружено, они ни минуты не задержатся на своих должностях. Вы знаете, о чем я говорю.

**— Что вы собираетесь делать после проигрыша на выборах — останетесь в стране или сбежите вслед за Божелко?**

— Сбегу.

**— А куда вы сбежите — туда, где деньги, или туда, где вас защитят?**

— В Израиль! А вообще, насчет проигрыша — не дождетесь.

**— Дождусь.**

— Не дождетесь!

**— Дождусь! А коль скоро вы так убеждены в победе на выборах, зачем вы на прошлой неделе утверждали по телевизору, что вас будут охранять спецподразделения?**

— Меня всегда охраняло только одно подразделение — служба безопасности президента. В любом государстве существует служба безопасности. В данном случае меня сопровождает один человек из службы безопасности. Он меня и охраняет. В случае моего движения по городу меня сопровождают три человека из службы безопасности, не считая водителя автомобиля.

**— А к чему в таком случае ваши угрозы по поводу СОБРа, "Алмаза" и "Альфы"?**

— Не надо говорить о спецподразделениях, которые всегда — они не мною созданы — существовали, еще с советских времен. "Альфа" — отделение советской "Альфы". "Алмаз" — еще меньшее по численности подразделение, оно создано для других целей, причем не мною. Внутренние войска тоже не мной созданы, и, кстати, численность их при Лукашенко уменьшилась, имейте это в виду. Последнее сокращение произошло при нелюбимом вами Сивакове. "Алмаз" меня никогда не охранял. Сотрудники "Альфы" в первый год моего президентства, когда не было службы безопасности, действительно меня охраняли.

**— Александр Григорьевич, но вы не отвечаете на вопрос, зачем вы на прошлой неделе утверждали, что вас будут после 9 сентября, когда народ пойдет к резиденции президента, охранять СОБР, "Алмаз" и "Альфа"?**

— Я не говорил "охранять", я говорил, что они будут меня защищать.

**— От кого? От народа?**

— От вас! И от ваших хозяев.

**— От нас они не защитят.**

**Ирина ХАЛИП.**

ПУЛЬС

## Магілёўскі аблвыканкам купіць аўтобусы "Мерседэс"

**Магілёўскі аблвыканкам, нягледзячы на забарону набыцця старых аўтобусаў замежнай вытворчасці за бюджэтныя сродкі, не збіраецца адмаўляцца ад закупкі ў Германіі 30 аўтобусаў "Мерседэс".**

Па словах старшыні аблвыканкама Барыса Батуры, кіраўніцтва МАЗа адхіліла ўсе схемы па забеспячэнні Магілёўшчыны айчыннымі аўтобусамі. У той жа час аўтобусы "Мерседэс" каштуюць каля 50 мільёнаў рублёў, маюць гарантыю тэрмінам на 5 гадоў і пераўзыходзяць МАЗы як па тэхнічных, гэтак і эстэтычных параметрах, ступені зручнасці для пасажыраў.

**Канстанцін УВАРАЎ.**

## Да 91-й гадавіны з дня нараджэння Ларысы Геніюш

**У Зэльве адбыліся ўрачыстасці з нагоды 91-й гадавіны з дня нараджэння паэтэсы Ларысы Геніюш (нарадзілася 09.08.1910), арганізаваныя актывістамі мясцовых грамадскіх арганізацый.**

Удзел у мерапрыемствах узялі беларускія пісьменнікі, прадстаўнікі беларускай дыяспары, актывісты палітычных партый і грамадскіх арганізацый з Гродна, Зэльвы, Ліды, Слоніма, Мінска. У 2000 годзе ў Свята-Траецкай царкве была ўсталявана мемарыяльная дошка, прысвечаная памяці Ларысы Геніюш.

Пасля набажэнства ўдзельнікі ўрачыстасцяў усклалі на магілу паэтэсы і яе мужа Янкі Геніюша кветкі і вянок. Прысутныя ўхвалілі стварэнне ў Зэльве краязнаўчага таварыства імя Ларысы Геніюш, кіраўніком якога стаў мясцовы краязнаўца Юры Качук.

**Павел МАЖЭЙКА.**

## За трактары атрымаем цэлюлозу

Перспектывы доўгатэрміновага супрацоўніцтва паміж Ленінградскай вобласцю і Беларуссю абмеркавалі падчас сустрэчы 9 жніўня губернатар Ленінградскай вобласці Валерый Сердзюкоў і кіраўнік аддзялення пасольства Рэспублікі Беларусь у Санкт-Пецярбургу Васіль Шаладонаў. Пра гэта паведаміла прэс-служба адміністрацыі вобласці.

Асаблівая ўвага ў рэгіёне надаецца супрацоўніцтву з Мінскім трактарным заводам: толькі за апошні час сельгаспрадпрыемствы вобласці атрымалі больш за 200 трактароў МТЗ, і пастаўкі будуць працягвацца, у прыватнасці, у лік паставак электраэнергіі. Па словах В.Сердзюкова, сёння разглядаецца таксама магчымасць павелічэння сустрэчных паставак, напрыклад, цэлюлозы. Атрымае свой працяг супрацоўніцтва з такімі вядомымі прадпрыемствамі, як "Гомсельмаш". Адкрываюцца магчымасці выкарыстання магутнасцей новых партовых комплексаў, і перш за ўсё Усць-лужскага, для перавалкі беларускіх грузаў.

**БелаПАН.**

## Прэзентацыя кнігі, прысвечанай памяці Генадзя Карпенкі

**У гатэлі "Беларусь" адбылася прэзентацыя кнігі "У часу ў палоне", прысвечанай памяці вядомага беларускага палітыка Генадзя Карпенкі, які трагічна памёр 6 красавіка 1999 года ў выніку інсульту.**

У кнізе сабраныя матэрыялы аб жыцці і дзейнасці Генадзя Карпенкі, успаміны пра яго блізкіх сваякоў — жонкі, брата, маці, дачкі, а таксама сяброў і паплечнікаў. Змешчаны артыкулы і публічныя выступленні Генадзя Карпенкі. Аўтарам кнігі стаў брат народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча — пісьменнік Мікола Гіль.

"Гэтая кніга аб яркім і кароткім жыцці, — сказала на прэзентацыі ўдава палітыка Людміла Карпенка. — З яе старонак вы зможаце пачуць голас майго мужа, даведацца аб яго жыцці і барацьбе". Па словах Людмілы Карпенка, за два гады, што прайшлі пасля смерці яе мужа, удалося зрабіць вельмі многае: створаны фонд Генадзя Карпенкі, выдадзены зборнік артыкулаў "Генадзя Карпенку забілі?", а зараз выпушчана яшчэ і кніга. У бліжэйшых планах Людмілы Карпенкі — зняць фільм пра мужа.

Сваімі ўспамінамі аб вядомым палітыку на прэзентацыі кнігі падзяліліся яго паплечнікі па Аб'яднанай грамадзянскай партыі, ля вытокаў якой стаяў Генадзь Карпенка, вядомыя беларускія палітыкі і яго сябры. Усе сышліся на думцы, што лепшай памяццю Генадзю Карпенку стане перамога дэмакратычных сіл на прэзідэнцкіх выбарах.

**Юрый ПАЦЁМКІН.**

## Два дабрачынныя праекты на суму 15,5 тысячы еўра

**Беларускае прадстаўніцтва кампаніі Schwarzkopf & Henkel прыступіла да рэалізацыі двух дабрачынных праектаў, у рамках якіх Беларусі будзе аказана дапамога на суму 15.500 еўра.**

Адзін з праектаў заключаецца ў закупцы звычайнай і спецыяльнай мэблі, а таксама камп'ютэрнай тэхнікі для аддзялення эндакрыналогіі і прыёмнага аддзялення 3-й дзіцячай гарадской клінічнай бальніцы Мінска. Сутнасць другога дабрачыннага праекта заключаецца ў падтрымцы 7-га Міжнароднага дзіцячага пленэру маладых мастакоў і арганізацыі выставы работ творча адораных дзяцей у музеі Марка Шагала ў Віцебску. Частцы праекта таксама накіравана дапамога ў стварэнні бібліятэкі пры гэтым музеі.

Па словах кіраўніка прадстаўніцтва Schwarzkopf & Henkel Надзеі Гудковай, гэтыя праекты ажыццяўляюцца супрацоўнікамі кампаніі бязвыплатна, у вольны ад працы час.

**Аляксей АРЭШКА.**

## Не хадзіце на гэты балкон

**Вытворчае ўпраўленне жыллёва-камунальнай гаспадаркі Брэсцкага аблвыканкама лічыць неабходным забараніць карыстанне балконамі кансольнага тыпу ў будынках, пабудаваных да 1970 года, прызнаць іх аварыйнымі, апламбіраваць выхады і забараніць выхад на гэтыя балконы ўласнікам кватэр.**

У ліпені абваліўся балкон аднаго з дамоў Кобрына. Два чалавекі, якія стаялі на балконе, загінулі, пяцёра атрымалі траўмы (два чалавекі з цяжкімі траўмамі дагэтуль знаходзяцца ў Брэсцкай абласной бальніцы). Пасля надзвычайнага здарэння былі арганізаваныя камісіі па праверцы арганізацыі ўтрымання і тэхнічнага абслугоўвання жылога фонду Кобрына і выяўлення прычын абрушэння балкона. Зараз ужо вядома, што асноўнымі прычынамі трагедыі сталі недастатковая апорная здольнасць балконнай пліты з-за дапушчэння заводам-вырабляльнікам браку, нізкая трываласць бетоннай пліты.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

ВЫБІРАЙ!

## Вандроўка маладых па Палессі

**Працягваецца вандроўка "Рух добрай волі", якая праходзіць на Брэстчыне з 5 па 20 жніўня і ладзіцца кааліцыяй моладзёвых арганізацый вобласці. Ад Століна да Пінска вандроўка прайшла ўжо каля 20 вёсак.**




Перад уездам у горад Пінск калону сустрэлі супрацоўнікі ДАІ, якія пажадалі ім добрай дарогі і падзякавалі за тое, што яны робяць патрэбную справу. Намеснік начальніка гарадскога РАУС падпалкоўнік Кібух таксама прыхільна паставіўся да мерапрыемства. У горадзе падарожнікі запрашалі жыхароў прыйсці на выбары, раздавалі ім налепкі кампаніі "ВЫБІРАЙ", а таксама нумары газеты "Брестский курьер".

У другой палове дня вандроўка мусіла рушыць далей на Янаў, але на чыгуначным вакзале, дзе збіраліся ўдзельнікі, начальнік упраўлення унутраных спраў на транспарце Віктар Сачук выклікаў да сябе арганізатараў і на працягу 40 хвілін праводзіў з імі гутарку. Ён прызнаў, што ні крымінальнага, ні адміністрацыйнага кодэксу яны не парушаюць, але ў яго ўзніклі пытанні пра мэту вандроўкі і дакладны маршрут. Ён пытаўся, ці ёсць дазволы ад бацькоў на ўдзел у вандроўцы непаўнагадовых удзельнікаў, але такія дазволы ёсць.

Удзельнікі вандроўкі гавораць, што людзі з удзячнасцю прымаюць інфармацыю, якой ім вельмі не хапае. Многія здзіўляюцца, што іх ні за кога не агітуюць, а толькі клічуць прыйсці на выбары. У вёсках, дзе ладзяцца канцэрты і спартыўныя мерапрыемствы, да вандроўкі далучаюцца мясцовыя жыхары.

**Алена БАХУН.**

НЕЗАЛЕЖНАЯ ЭКСПЕРТЫЗА

# Белыя плямы папулізму, альбо Яшчэ раз пра беспрацоўе ў Беларусі

**Уладзімір КУЛАЖАНКА, доктар эканамічных навук, прафесар**



Апошнім часам беларускія папулісты для праслаўлення адміністрацыйнай улады ўсё часцей выкарыстоўваюць далёкія ад эканамічнага зместу формы ўздзеяння на асоб, якія прывыклі карыстацца інфармацыяй у, так бы мовіць, падрыхтаваным, разжаваным выглядзе. Узорам гэтага ёсць разважанні высокіх чыноўнікаў пра тое, як добра жыць у Беларусі пры ўладзе А.Лукашэнкі: няма грамадзянскай вайны, міжканфесійнай барацьбы, у краіне ціха і спакойна.

Так, умоўна спакойна. Але няма войнаў і ў суседняй Польшчы, Украіне, Літве, Латвіі, Эстоніі... І ніхто не лічыць гэта вялікім дасягненнем. Галоўным дасягненнем з'яўляюцца поспехі ў эканоміцы і заробкі людзей. Праўда, ідзе вайна ў суседняй Расіі. Але гэта імперыя. Войны там былі і будуць аж да таго часу, пакуль усе народы не атрымаюць незалежнасць. Такая прырода імперыялізму — трымаць прыгнечаныя народы і не пушчаць. Якая маленькая сербская імперыя, але і там ідуць ваенныя закалоты.

У астатнім папулісцкая схема Лукашэнкі і яго памагатых уся ў белых плямах. Пра тое, дзе дрэнна А.Лукашэнка маўчыць быццам вады ў рот набраўшы. Чаго ён і яго памагатыя нічога не гавораць пра тое, што ў краіне сёлета рэзка скарацілася вытворчасць важнейшых прадуктаў харчавання? У параўнанні з першым паўгоддзем мінулага года вытворчасць паменшылася: вараных каўбасаў — на 6%, паўвэнджаных і вэнджаных адпаведна на 27,1 і 21,5%, малака выраблена на 4,2% меней, хлеба — на 14,6%, вытворчасць макаронных вырабаў упала ў 2,3 раза (толькі 42,6% ад узроўню мінулага года). А гэта ж прадукты шырокага спажывання. Скарацілася вытворчасць нават такога "харчовага" прадукту, як гарэлка — на 8%, а піва, нягледзячы на спякотнае лета, аж на 17%.

Што станоўчага можа сказаць кіраўнік дзяржавы пра гэта, калі пры мізэрнай заработнай плаце многія прадукты харчавання для шэраговага спажыўца проста недаступныя. Зусім не выпадкова, што запасы некаторых відаў гатовай харчовай прадукцыі на сярэдзіну года перавысілі ўсялякую допушчальную мяжу: тлустых сыроў на складах назапасілася 2818 тон, альбо 87,9% месячнага аб'ёму вытворчасці, 3900 тон круп, альбо звыш чатырохмесячнага аб'ёму вытворчасці, моцных напояў 554 тысячы дэкалітраў, ці 70 працэнтаў месячнага аб'ёму вытворчасці.

Можна колькі заўгодна гаварыць аб 100-доларавай заработнай плаце для бюджэтнікаў, але гэта пакуль што не вырашае праблемы беднасці ў краіне. Лета павярнула на другую палову, прайшоў Ілля, а абяцаныя 100 долараў для абсалютнай большасці насельніцтва зусім не свецяць. Пазнейшых даных пакуль няма, але ў чэрвені спажывецкі бюджэт складаў 55 долараў. Грошы гэтыя мізэрныя, але 1672 тысячы чалавек атрымліваюць даходы меней 55 долараў, альбо значна меней. Да апошніх належыць 660 тысяч чалавек, заробкі якіх не перавышаюць 33 долары ў месяц. Здзіўляе, чаму пра гэтых людзей і пра тое, як ім жыць далей, не гаворыць галоўны папуліст? Чаго маўчыць пра тое, што на сёння насельніцтва краіны толькі на харчаванне трацiць 65—70 працэнтаў сваіх сярэдніх заробкаў. А гэта азначае, што сотні тысяч людзей на харчаванне трацяць усё, да апошняй капейкі ды яшчэ не хапае.

Адчуўшы пагрозу, Лукашэнка зрабіў прыгожы жэст — паабяцаў лібералізаваць эканоміку. Але па яго ж словах, абяцанай лібералізацыі будзе нададзена адміністрацыйная форма. Між тым, яшчэ стваральнік канцэпцыі сацыяльнай рынкавай гаспадаркі, якой нібы прытрымліваецца кіраўнік дзяржавы, Людвіг Эрхард у сваёй працы "Дабрабыт для ўсіх" пісаў: "Рыначная гаспадарка не можа быць аддзелена ад свабоднай канкурэнцыі; яна не можа таксама адмовіцца ад функцый свабоднай цаны. Хто пажадае выключыць функцыю свабоднай цаны, той забівае канкурэнцыю і садзейнічае здранцвенню эканомікі". Людвіг Эрхард дасягнуў эканамічнага цуду ў Германіі, А.Лукашэнка сваёй цэнавай палітыкай якраз і прывёў эканоміку Рэспублікі Беларусь у стан здранцвення.

Не белай плямай, а проста бяльмом на папулісцкай схеме А.Лукашэнкі з'яўляецца праігнараваная і забытая праблема масавага беспрацоўя ў краіне. Афіцыйна зарэгістраваных беспрацоўных — мізэр, у межах ста тысяч чалавек ці каля двух працэнтаў ад працаздольнага насельніцтва. А фактычна да гэтай лічбы трэба дадаць тых, хто працуе няпоўны тыдзень, каго накіроўваюць у змушаны адпачынак, часта без утрымання, умоўна занятых на заводах і фабрыках і г.д. Набіраецца звыш 400 тысяч чалавек, ці каля 10% ад працаздольных. Гэта як мінімум, а на самай справе — значна болей. Толькі кандыдаты ў прэзідэнты ад дэмакратычнай апазіцыі сур'ёзна думаюць пра гэта. У прыватнасці лідэр "Рэгіянальнай Беларусі" Сямён Домаш. У апошніх сваіх публікацыях ён сур'ёзна ставіць праблему аб стварэнні рабочых месцаў менавіта малым і сярэднім бізнесам і самазанятасці насельніцтва.

Штучна абвясціўшы амаль поўную занятасць пры татальным беспрацоўі, А.Лукашэнка зусім выключыў праблему беспрацоўя ў невялікіх гарадах, раённых цэнтрах і мястэчках. Адтуль, дзе адносна ёсць жыллё, пастаянна эмігрыруе моладзь, бо няма працы. Паступіць на вучобу большасці сельскай і местачковай моладзі таксама не ўдаецца па многіх прычынах. Свежы прыклад: сёлета ў БДУ паступіла 5667 заяў аб прыёме на вучобу ад гараджан і 606 — ад сельскіх абітурыентаў. Залічана 1710 гараджан і толькі 155 вяскоўцаў. Вернуцца выпускнікі ў свае вёскі і райцэнтры — а што рабіць, чым заняцца?

Праблема занятасці ў невялікіх вёсках і мястэчках — дзяржаўная праблема. Там трэба ствараць прамысловыя прадпрыемствы і інфраструктуру, каб яны комплексна развіваліся і паглыналі ўвесь растучы працоўны рэсурс, а не сілкавалі беспрацоўе ў гарадах. Зразумела, што тут без рэструктурызацыі прамысловасці і другіх галін народнай гаспадаркі не абысціся. А якраз тут не заўважаецца ніякіх зрухаў. Між тым, трэба сур'ёзна думаць пра адгалінаванне вытворчых аб'ектаў ад буйных прадпрыемстваў і размяшчэнне іх у невялікіх гарадах і мястэчках. Пры гэтым трэба пазбегнуць адмоўнага вопыту расійскіх гарадоў, дзе працаўладкаванне людзей у невялікіх гарадах звязана з адзінымі горадаўтваральнымі монапрадпрыемствамі. У такіх гарадах у Расіі жыве звыш 20 мільёнаў чалавек. Трапляе ў крызіс такое прадпрыемства — жах сказаць, калоціць увесь горад. У Беларусі гэтага трэба пазбегнуць. Малыя гарады і мястэчкі як цэнтры аграрных рэгіёнаў павінны развівацца комплексна і імкліва. Але сённяшнія ўлады, адчуваецца, гэтую праблему не здольныя вырашыць. Хвароба беспрацоўя заходзіць углыб, а рынак працы знаходзіцца як бы ў тумане.

